ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# ПРАБЛЕМЫ ЗАХАВАННЯ ПРАЦОЎНАГА ПАТЭНЦЫЯЛУ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

ІРЫНА ВАШКО

***Анатацыя:*** Разгледжаны метадалагічныя падыходы, якія ўжываюцца для ацэнкі працоўнага патэнцыялу. Выканана ацэнка стану і тэндэнцый фарміравання працоўнага патэнцыялу Беларусі. Вызначаны магчымасці росту працоўнага патэнцыялу.

***Ключавыя словы:*** працоўны патэнцыял, ацэнка працоўнага патэнцыялу Беларусі, узнаўленне працоўных рэсурсаў.

## THE PROBLEMS OF MAINTAINING THE LABOUR POTENTIAL IN BELARUS

***Abstract:*** This study seeks to assess the labour potential of the Belarusian economy by utilising a customised methodology. This method allows to detect the stance and trend of Belarus's labour force potential and identify the related opportunities.

***Keywords:*** Labour Potential, Evaluation of Labour Potential of Belarus, Labour Force Reproduction.

Працоўны патэнцыял уяўляе сабой наяўныя актуальныя ў цяперашні час і прагназаваныя ў будучыні працоўныя магчымасці краіны, рэгёна або прадпрыемства. Працоўны патэнцыял характарызуецца колькасцю працаздольнага насельніцтва, яго прафесійна-адукацыйным узроўнем, іншымі якаснымі і колькаснымі характарыстыкамі.

Працоўны патэнцыял як эканамічная катэгорыя характарызуе насельніцтва як патэнцыйнага вытворцу матэрыяльных выгод на аснове сукупнасці ўсіх якасцяў, якія вызначаюць яго працаздольнасць. У навуковых даследаваннях не існуе адназначных падыходаў да вызначэння працоўнага патэнцыялу і яго ацэнкі.

Падыходы да яго ацэнкі можна падзяліць на тры групы:

- “індыкатарны” падыход, заснаваны на розных натуральных характарыстыках чалавечага капіталу;

- вартасны падыход, заснаваны на ўліку выдаткаў, звязаных з яго фарміраваннем;

- вартасны падыход, заснаваны на ўліку даходаў ад яго.

Для выкарыстання такіх методык у дадатак да статыстычных дадзеных неабходны дадатковы збор дадзеных.

У некаторай ступені ацэнку працоўнага патэнцыялу ў краіне дае такі паказчык, як Індэкс развіцця чалавечага патэнцыялу (ІРЧП), які з’яўляецца сярэднім геаметрычным гэтых трох індэксаў: чаканай працягласці жыцця, сярэдняй працягласці навучання насельніцтва, чаканай працягласці навучання насельніцтва, якое яшчэ атрымлівае адукацыю; ВНД на душу насельніцтва па парытэце пакупніцкай здольнасці (у далярах ЗША).

Па значэнні ІЧР Беларусь адносіцца да краін з высокім узроўнем чалавечага развіцця і займае лідзіруючую пазіцыю сярод краін СНД. Згодна з Дакладам аб чалавечым развіцці ПРААН (2014 год), Беларусь у 2013 годзе заняла 53 месца сярод 187 краін па ІЧР (0,786), у 2012 годзе – 50 месца (ІЧР – 0,793). Паляпшэнне пазіцыі Беларусі ў міжнародным рэйтынгу краінаў апошнія гады было выклікана ростам значэнняў першых трох з чатырох кампанентаў ІЧР. Аднак Беларусь сёння адстае ад развітых краін па паказчыку чаканай працягласці жыцця на 11–13 гадоў у мужчын (67,1 года) і на 5–10 гадоў у жанчын (77,6 года). Чаканая працягласць жыцця ў Беларусі штогод павялічваецца прыблізна на 0,3%, у 2013 годзе яна склала 72,4 года (Human development reports, 2013).

У эканоміцы Рэспублікі Беларусь у 2013 годзе было занята 4517,8 тысячы чалавек (на 1,3% менш, чым у 2012 годзе), што ў пэўнай меры абумоўлена змяншэннем колькасці насельніцтва ў працаздольным узросце. Дадзеная тэндэнцыя працягне аказваць моцны ўплыў на фарміраванне працоўнага патэнцыялу рэспублікі. У 2013 годзе па-

дрыхтавана каля 37 тысяч кваліфікаваных рабочых і служачых, што на 26,6% менш, чым у 2012 годзе. Штогод колькасць тых, хто паступае ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, скарачаецца прыкладна на 10 тысяч чалавек. Насельніцтва Беларусі можна назваць "старым", так як 14% жыхароў ужо дасягнулі ўзросту 65 гадоў (па міжнародных стандартах насельніцтва лічыцца "старым", калі колькасць насельніцтва ў такім узросце і старэйшым складае 7%). У Беларусі смяротнасць мужчын ва ўзросце 15–60 гадоў у 3–4 разы вышэйшая, чым у краінах Еўрапейскага Саюза (Нацыянальны статыстычны камітэт).

Каэфіцыент замяшчэння работнікаў (суадносіны ліку прынятых да ліку звольненых) у снежні 2013 года склаў 0,832 (у снежні 2012 года – 0,857). Колькасць звольненых работнікаў арганізацый рэспублікі перавысіла колькасць прынятых на 11,5 тысячы чалавек (у снежні 2012 года – на 9 тысяч чалавек). Попыт на рынку працы на працоўную сілу знізіўся, ён арыентаваны на рабочыя прафесіі, якія склалі 75,5% агульнай колькасці заяўленых наймальнікамі вакансій (77,7% у 2012 годзе).

Адной з важных прычын дэпапуляцыі ў Беларусі з'яўляецца нізкі ўзровень нараджальнасці. У 2012 годзе сумарны каэфіцыент нараджальнасці склаў 1,62 на адну жанчыну пры неабходным для простага ўзнаўлення насельніцтва 2,15. Назіраецца адкладванне нараджэнняў і звязанае з гэтым павелічэнне сярэдняга ўзросту дзетанараджэння. Скачок замяшчальнай нараджальнасці адбыўся за кошт пакалення, народжанага ў 1980-я гады. У 2013 годзе ў рэспубліцы нарадзілася 118 463 дзіцяці, памерла – 125 872 чалавекі. У цэлым па краіне ў 2013 годзе колькасць памерлых перавысіла колькасць народжаных на 6,3% (у 2012 годзе – на 9,2%).

Паводле афіцыйных статыстычных дадзеных Беларусі, міграцыйны прырост за 2013 год склаў 11 643 чалавекі і кампенсаваў натуральнае змяншэнне насельніцтва, забяспечыўшы павелічэнне колькасці насельніцтва ў параўнанні з пачаткам года на 4,2 тысячы чалавек. У даследаванні CARIM (Migration Policy Centre of the European University Institute) адзначана, што па статыстыцы краінаў, якія прымаюць мігрантаў, 453 479 беларускіх грамадзян пражывала за мяжой у 2012 годзе, што складае 4,8% ад агульнай колькасці насельніцтва, якое пражывае ў Беларусі (Migration Policy Centre, 2013).

Стымулюючая дэмаграфічная палітыка (напрыклад, ільготнае крэдытаванне жылля для маладых сем'яў, субсідыі пры нараджэнні трэцяга дзіцяці і іншыя меры) не можа прадухіліць змяншэнне насельніцтва. Беларусь з'яўляецца краінай са старэючай узроставай структурай.

Попыт на работнікаў у асноўным фармаваўся ў такіх відах эканамічнай дзейнасці, як апрацоўчая прамысловасць, будаўніцтва, сель-

ская гаспадарка, паляванне і лясная гаспадарка, гандаль, рамонт аўтамабіляў, бытавых вырабаў і прадметаў асабістага карыстання, транспарт і сувязь, аперацыі з нерухомай маёмасцю, арэнда і аказанне паслуг спажыўцам, ахова здароўя і аказанне сацыяльных паслуг.

У сувязі з недастатковасцю зыходных дадзеных для аналізу выкарыстана методыка сістэмнага аналізу складу і структуры працоўнага патэнцыялу Беларусі, заснаваная на індэксным метадзе (Щербов, 2008).

У якасці базавых індыкатараў развіцця працоўнага патэнцыялу ў гэтай методыцы разглядаюцца: індэкс працягласці працоўнага жыцця; індэкс занятасці насельніцтва; індэкс узроўню прафесійнай адукацыі занятага насельніцтва; індэкс фонду ўзброенасці працы; індэкс валавога рэгіянальнага прадукту на душу насельніцтва. У выніку праведзенага аналізу можна адзначыць, што ў Беларусі найлепшы працоўны патэнцыял па стане на 2008 год мела Гродзенская вобласць, а найменшы – Брэсцкая. У 2013 годзе Гродзенская вобласць саступіла лідарства Мінскай, а Магілёўская вобласць мела найменшае значэнне індэкса развіцця працоўнага патэнцыялу. У цэлым па краіне значэнне працоўнага патэнцыялу ў 2013 годзе зменшылася.

У найбліжэйшыя гады прагназуецца рэзкае скарачэнне працоўных рэсурсаў пад уплывам фактараў натуральнага руху насельніцтва, зніжэння яго колькасці (Якшибаева, 2007).

Дэфіцыт працоўных рэсурсаў можа стаць адным са значных фактараў, якія перашкаджаюць устойліваму сацыяльна-эканамічнаму развіццю, што абумоўлівае значнасць пошуку рэзерваў захавання працоўнага патэнцыялу Рэспублікі Беларусь.

На аснове праведзенага даследавання можна зрабіць наступныя высновы.

Фактарамі, якія адмоўна ўплываюць на ўзнаўленне працоўных рэсурсаў, з’яўляюцца дэпапуляцыя, старэнне, высокая смяротнасць, пагаршэнне стану здароўя насельніцтва, негатыўныя трансфармацыі інстытута сям’і, міграцыйныя працэсы.

Паводле прагнозаў, чакаецца:

- далейшае зніжэнне агульнай колькасці насельніцтва, долі насельніцтва ў працаздольным узросце, каэфіцыента нараджальнасці, долі насельніцтва малодшага ўзросту (0–15 гадоў);

- павелічэнне працягласці жыцця і сярэдняга ўзросту, рост дэмаграфічнай нагрузкі пажылымі, адмоўнае сальда знешняй міграцыі (з улікам фактычнай колькасці працоўных мігрантаў, якія выбываюць у РФ і іншыя краіны).

Варыянты падыходаў у дзяржаўнай палітыцы да захавання працоўных рэсурсаў: а) стымулюючая дэмаграфічная палітыка; б) павелічэнне пенсійнага ўзросту, в) прыцягненне працоўных мігрантаў у краіну.

***Бібліяграфія***

1. Human development reports. UNDR, URL: http://hdr.undp.org/en/content/human-development-index-hdi-table

2. MPC – Migration Profile Belarus, June, 2013, URL: http://www.migrationpolicycentre.eu/

3. Нацыянальны статыстычны камітэт Рэспублікі Беларусь, URL: http://www.belstat.gov.by/

4. Щербов, С. (2008). "Население Республики Беларусь: взгляд в будущее", URL: http://un.by/ru/unfpa/demography/resource/material/materials_con.html

5. Якшибаева, Г. В. (2007). "Трудовой потенциал республики: количественно-качественная характеристика", *Экономика и управление,* № 3: 57–65.